ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Кніга ноша

№ 36

люты, 2016

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

# Анатоль ІВАШЧАНКА: «Літаратуразнаўства на сёння – самая інертная гуманітарная галіна»

**– Шаноўны спадар Анатоль, у выдавецтве «Кнігазбор» нядаўна выйшла Вашая новая кніга «Анаталогія». Назва арыгінальная. Цікава, як яна прыйшла і што за ёй стаіць?**

– Пошук назвы, відаць, для кожнага творцы – працэс сакральны. Важна не памыліцца. На этапе прыдумвання назвы ў мяне было каля дзесяці самых розных варыянтаў і, адпаведна, канцэпцыяў афармлення вокладкі. Напрыклад, такі. Заплечнік. Першая старонка вокладкі – чалавек ідзе з заплечнікам па кветкавым полі. Расшпіленая кашуля. Твару мы не бачым, але можам здагадацца, што ён шчаслівы. Бачым толькі лямкі заплечніка, неба, поле з краскамі і г.д. Апошняя старонка – той жа заплечнік, від ззаду. З яго тырчыць флейта дажджу, дзесьці матляецца б-ч-б стужка, можа, якісьці значак прышпілены… Відавочна, што ў тым заплечніку – так бы мовіць, «творчы набытак» аўтара. Як бы канцэпцыя – у адсутнасці канцэпцыі. Ілюстрацыя да такога сабе міні-збору твораў, якім, праўда, гэтая кніга не ёсць, бо не ўсё з напісанага ў прозе на сённяшні момант сюды трапіла…




Некалькі тыдняў я быў цалкам пагружаны ў пошук-перабіранне назвы. А пасля раптам прыгадалася, што адзін прыяцель калісьці жартам сказаў, што калі я буду выдаваць кнігу, то абавязкова мушу назваць яе «Анаталогія». (Ён вялікі аматар каламбураў.) Тут усё і супала, бо нагадаю, што з грэцкай анталогія – гэта збор кветак. (Дарэчы, імя Анатоль – таксама грэцкага паходжання.) То бок назва прыйшла сама, як бы звонку, а не ў выніку пакутлівага абдумвання. Як і павінна быць.

Не сакрэт, што кожная кніга, нават калі яна падкрэслена не аўтабіяграфічная, можа распавесці пра аўтара больш, чым самыя блізкія людзі. І, хаця ў мастацкіх творах стараешся гэтую асабовасць прыхаваць, пасунуць на задні план, у назве якраз і захацелася яе падкрэсліць. Збалансаваць аўтара і я-героя. Пагатоў, у «Анаталогіі» наўпрост аўтабіяграфічнага якраз-такі дастаткова – два раздзелы з трох.

Таму ў сугуччы назвы з імем аўтара не варта шукаць праяваў нарцысізму.

**– У кнізе ёсць раздзел «Пацалункі ў неба. Татавы нататкі» з запісамі перлінаў, фразачак і пацешных слоўцаў Вашых дзяцей. Як узніклі гэтыя запісы і для каго яны рабіліся?**

– Яны ўзнікалі са звычайнага чалавечага жадання *прыпыніць імгненне*, таго самага, з якога ўзнікла і літаратура, і жывапіс, і фотамастацтва, і кіно… Проста не заўсёды ж бярэш з сабой відэакамеру. Ну, і запісаныя ў нататніках і пасля, праз шмат гадоў знойдзеныя, гэтыя нататкі набываюць раптам незвычайную каштоўнасць. Прынамсі, для іх стверальніка.

*(Працяг на стар. 7)* 

### Даведка «Кніганошы»:

**Анатоль Івашчанка – паэт, празаік, перакладчык і літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Вершnick» (2006), «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй» (2008), «Хай так» (2013), «Анаталогія» (2015). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**




**Бароўскі Анатоль. Воляй абраны: раман. Паслясл. А. Астапенкі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 352 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 68).**

У чарговай кнізе Анатоль Бароўскі засяродзіў сваю ўвагу на каханні кіраўніка паўстання 1863–1864 гадоў Вікенція Канстанціна Каліноўскага і яго нарачонай Марыі Ямант, якое яны пранеслі праз віхуры і здзекі, вытрымаўшы і перамогшы, выстаяўшы і даказаўшы, што вышэй Кахання нічога ў Сусвеце не існуе.

Паралельна з гэтай тэмай аўтар паспрабаваў разабрацца ў тым, чаму вызвольнаму паўстанню, нават задоўга да пачатку яго, была наканавана параза. І – перамога. Бо імя Каліноўскага і яго духоўны подзвіг застануцца ў памяці нашчадкаў на вякі...



**Валодзін Міхаіл. Наш стары добры Вавілон. Прагулка па горадзе ў Мінскіх гісторыйках. Малюнкі Сяргея Стэльмашонка; фота Міхаіла Валодзіна, Георгія Ліхтаровіча, а таксама з Архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі і Нацыянальнага гістарычнага архіва. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 168 с: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 69).**

«Наш стары добры Вавілон» – унікальная кніга. Міхаілу Валодзіну ўдалося аб'яднаць пад адной вокладкай зборнік гарадскіх апавяданняў, міфалагічныя і незвычайныя падарожны даведнікі па горадзе. Дзякуючы таму, што «Мінскія гісторыйкі» (так аўтар называе свае кароткія апавяданні) месяцца ўздоўж аднаго з самых папулярных гарадскіх маршрутаў і суправаджаюцца мапай, чытачы змогуць здзейсніць і самастойныя прагулкі. І не на самоце, а ў кампаніі Дастаеўскага і Талстога, Купалы і Коласа, Мальера і Вальтэра, Кацярыны І і Пятра Вялікага, Пушкіна, Александроўскай, Фідэля Кастра ды іншых мінчанаў.




**Украінка Сяргей. 9 гранаў: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 136 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 70).**

У вершах зборніка аматары паэзіі знойдуць цэлы лірычны свет, своеасаблівы, крыху змрачнаваты, але надзвычай светлы, набрынялы верай у адвечнасць разумнага і добрага. Багатая вобразнасць, метафарычнасць, сімвалізм – адметныя рысы твораў Сяргея Украінкі.




**Нурдквіст Свэн. Блінны торт. Мастак Свэн Нурдквіст; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 32 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 11).**

Фіндусу падабаецца святкаваць дзень народзінаў, і таму ён святкуе яго тры разы на год. Звычайна ў гэты дзень Пэтсан пячэ блінны торт. Для гэтага патрэбны яйкі, мука і малако. Мукі дома няма, таму Пэтсану трэба з'ездзіць на ровары ў краму ды набыць яе. Але спачатку трэба адрамантаваць ровар інструментамі, якія ляжаць у майстэрні, ключ ад якой апынуўся ў калодзежы. Каб дастаць ключ, трэба ўзяць драбіны, прытуліўшыся да якіх спіць страшны ды злосны бык...




**Светашёва Таня. Разные вещи: стихи. – Минск: Кнігазбор, 2015. – 68 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў«Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

У дэбютную кнігу Тані Светашовай увайшлі вершы розных гадоў. Гэта збор унутраных маналогаў, у якіх злучаныя глыбока інтымнае і агульначалавечае, іронія і журба, што разгортваюцца ўнутры топаса Мінска – не вітрыннага, а нутранога, сапраўднага...




**Дойл Артур Конан. Нататкі пра Шэрлака Холмса. Пер. з англ. А. Казловай [і інш.]. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 308 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

«Нататкі пра Шэрлака Холмса» – зборнік з дванаццаці апавяданняў пра ангельскага дэтэктыва, другі пасля «Прыгодаў Шэрлака Холмса». Паводле задумы Дойла, надрукаваныя ў 1894 годзе «Нататкі» мусілі завяршаць цыкл твораў пра Шэрлака Холмса – так з'явілася апавяданне «Апошняя справа Холмса». Аднак чытачы не дазволілі аўтару забіць героя, а таму гісторыя з прафесарам Марыярці – апошняя ў гэтым зборніку, але ніяк не ў цыкле.




**Жырандоля: літаратурны альманах. Брэст. № 7, 2015. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 200 с.**

Сёмы выпуск альманаха Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі ў Другой сусветнай вайне. Яго змест складаюць творы розных жанраў і тэматыкі не толькі сяброў суполкі, але і маладых аўтараў, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі вобласці – людзей, якія клапоцяцца пра лёс роднага слова, гісторыі і культуры Берасцейшчыны.




**Справа: альманах: вып. 3-2016/ Гал. рэдактар А. Наварыч. – Мінск.: Белпринт: Смэлтак, 2016. – 220 с., з іл.**

У трэцім выпуску альманаха «Справа» Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў змешчаны творы беларускіх і ўкраінскіх аўтараў як прызнаных класікаў, так і маладых. Чытач знойдзе тут паэзію, прозу, пераклады, навуковую публіцыстыку.



**Івашчанка Анатоль. Анаталогія: апавяданні, запісы, эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 116 с.**

Акрамя імя аўтара і агульнай вокладкі, тэксты, што ўвайшлі ў гэтую кнігу, аб'ядноўвае тое, што ўсе яны напісаныя ў дваццаць першым стагоддзі. Некаторыя апавяданні – пад сапраўдным імем аўтара – друкуюцца ўпершыню.



**Барадулін Рыгор. Каб аднойчы: вершы. Уклад. Алесь Камоцкі; фота Джон Кунстадтэр. – Мінск: А.А. Калоша, 2016. – 44 с.: фат.**

Магія паэзіі Рыгора Барадуліна ў нізцы лірычных песень Алеся Камоцкага, аздобленая фотаздымкамі Джона Кунстадтэра.



**Ціхановіч Яўген. Партрэт стагоддзя. Прадм., падрыхт. тэксту, камент. Сяргей Харэўскі. – Мінск: Лімарыус, 2015. – 532 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

За больш як 70 гадоў творчасці Яўген Ціхановіч (1911–2005) стварыў дзясяткі жывапісных і сотні графічных твораў. Ягоныя сведчанні, датычныя мастацкай культуры, асабовых характарыстык калегаў, насамрэч унікальныя, бо ахопліваюць лёсы некалькіх пакаленняў творцаў, якія запачаткавалі класічнае мастацтва Беларусі. Асаблівую вартасць мае частка мемуараў, прысвечаная сям'і Уладзіслава Галубка, зяцем якога быў мастак, і перыяду нямецкай акупацыі, ва ўмовах якой давялося яму жыць. Гэтае выданне адрасаванае гісторыкам мастацтва і тэатра, мастацтвазнаўцам, а таксама ўсім, каму цікавыя мастацтва і гісторыя Беларусі XX стагоддзя.



**Абламейка Сяргей. Дом літаратара: пісьменьніцкія гісторыі. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 200 с.**

Героі апавяданняў Сяргея Абламейкі жывуць адначасова ў нашым часе, у нядаўнім мінулым і ў недалёкай будучыні. Яны належаць да неіснуючых пісьменніцкіх саюзаў, адпачываюць у няісных дамах творчасці, друкуюцца ў часопісах, якіх няма, працуюць у выдавецтвах, якіх ніколі не было, і абмяркоўваюць нікім не напісаныя творы. Антураж і дэкарацыі кнігі прыйшлі як бы з паралельнага свету, і ёсць толькі аддаленае падабенства з тым, што было або яшчэ будзе. Затое жыццёвыя калізіі, што леглі ў аснову кожнага апавядання, – рэальныя, зямныя і вечныя.

**Льюіс Клайв Стэйплз. Лісты Круцяля: аповесць. Пер. з англ. Ф. В. Корзун. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 176 с.**

У аповесці Клайва Стэйплза Льюіса (1898–1963) «Лісты Круцяля» (1941) стары дасведчаны д'ябал Круцель, які займае важную пасаду ў бюракратычным апараце пекла, дае парады свайму пляменніку, спакусніку-пачаткоўцу Чарнобліку, як найбольш эфектыўна схіляць людзей да зла, каб зрабіць іх пажывай для пекла. Разглядаючы ў парадаксальным святле – з гледзішча д'ябла – самыя розныя сферы чалавечага жыцця (каханне, сяброўства, страхі, духоўныя пошукі, палітычныя пераканання і г. д.), Льюіс змог дасягнуць таго, чаго раней не ўдавалася нікому: прымусіў нячыстую сілу працаваць на ніве апалогіі хрысціянства. У кнігу ўвайшлі таксама пазнейшае эсэ «Круцель прапануе тост» (1959) і агульная прадмова Льюіса да абодвух твораў (1961).







**Самойлік Томаш. Бортнік Ігнат і скарб пушчы. Пер. з пол. мовы В.В. Гуд. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 112 с.: іл.**

У глыбіні страрадаўняй пушчы бортнік Ігнат даглядае пчол, якія жывуць у борцях, як рабілі яго прадзеды. Хоць Ігнат жыве ў сэрцы па-за часам, бег гісторыі не запавольваецца. Над пушчай збіраюцца цёмныя хмары, а спакойнае жыццё ў згодзе са старадаўнімі звычаямі знаходзіцца пад пагрозай. Ці ўдасца Ігнату зберагчы пушчу і легендарны скарб, схаваны ў яе глушы?




**Калевала. Літ. апрацоўка Эліяса Лёнрута; пер. з фінскай Якуба Лапаткі. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 626 с., [12 л.] іл.**

Славуты карэла-фінскі эпас «Калевала» ўпершыню прапануецца беларускаму чытачу ў перакладзе непасрэдна з фінскай, мовы арыгіналу. Тэкст перакладу дапоўнены тлумачальным слоўнікам некаторых імёнаў і назваў, якія сустракаюцца ў эпасе і кароткім зместам рунаў.




**Ніцшэ Фрыдрых. Так сказаў Заратустра. Кніга ўсім і нікому: раман. Пер. з ням. мовы Васіля Сёмухі. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 280 с. – (Littera scripta).**

«Так сказаў Заратустра» – раман, які хваляваў розум не аднаго пакалення і дагэтуль застаецца ў цэнтры ўвагі ўдумлівага чытача. Гэта развагі над сутнасцю таго, чым ёсць чалавек. Адрасуецца шырокай чытацкай аўдыторыі.




**Руіз Анхела Эспіноса. Раяль ля мора. – Logvino Literatūros namai, 2015. – 80 с.**

Анхела Эспіноса Руіз нарадзілася ў Малазе (Іспанія) у 1993 годзе. Яна студэнтка апошняга курса славянскай філалогіі ў Гранадскім універсітэце. Яна любіць музыку і словы (усе словы на свеце). Таму піша паэзію.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Ластоўскі Вацлаў. Лабірынты: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 176 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Чытач мае магчымасць увайсці ў Лабірынт самых неверагодных здагадак, азарэнняў, парадоксаў думкі, пабудаваны Вацлавам Ластоўскім, які стаў адным з самых яркіх дзеячаў беларускага нашаніўскага Адраджэння. Пісьменніка хвалявалі таямніцы быцця чалавека і цывілізацыі, адсюль ягонае захапленне эзатэрыкай, містыкай, парапсіхалогіяй. Адкрыццём новага жанру ў сусветнай літаратуры сталіся «Лабірынты». Што гэта – дэтэктыў, фантастыка, інтэлектуальная проза, містыка? Усё паказвае на нараджэнне новага, сінтэтычнага рамана, кшталту тых, што пазней стварыў Умберта Эка.




**Адамовіч Алесь. Венера, або Як я быў прыгоннікам. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 240 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

У аповесці Алеся Адамовіча «Венера, або Як я быў прыгоннікам» шмат аўтабіяграфічнага, аўтарскага. У споведзі безыменнага героя разгортваецца кароткае жыццё Венеры Станкевіч, паказваецца яе трагедыя, што ў асноўным паўтарае трагедыю беларусаў. Гэта твор-пакаянне, дзе адлюстраваны працэс «разліку з мінулым».




**Адамчык Вячаслаў. Чужая бацькаўшчына. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 512 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Празаік Вячаслаў Адамчык зарэкамендаваў сябе як выдатны псіхолаг, знаўца чалавечае душы і традыцыяў вясковага побыту. У рамане «Чужая бацькаўшчына», які ўваходзіць у вядомы пісьменніцкі цыкл празаічных твораў, адзначаных Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Якуба Коласа, ён стварыў вобраз заходнебеларускай вёскі ва ўмовах даваеннай польскай дзяржавы. Амаль дэтэктыўны сюжэт рамана робіць яго чытанне па-сапраўднаму захапляльным.




**Шамякін Іван. Шлюбная ноч. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 192 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Надзвычайная папулярнасць прозы Івана Шамякіна тлумачыцца той усёпранікальнасцю, з якой ён прасочваў побыт і душу чалавека, умеў з аднолькавым поспехам зазірнуць у майстэрню архітэктара, аперацыйную хірурга, кабінет партыйнага функцыянера, хату механізатара. Паўсюль пісьменнік знаходзіў жыццё і чалавека з яго простымі жаданнямі – дабрабыту і шчасця. У аповесці «Шлюбная ноч» рука майстра спалучыла дзве несупастаўляльныя, здавалася б, тэмы – вайна і каханне.




**Стральцоў Міхась. Смаленне вепрука: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 208 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Міхась Стральцоў, якога называюць пісьменнікам па прызванні і псіхолагам па натуры, неверагодна ўзбагаціў айчыннае прыгожае пісьменства. Ён праявіў сябе тонкім псіхолагам, знаўцам побыту вёскі і горада. Узнёсла і разважліва аналізаваў майстэрства Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цішкі Гартнага і іншых. У кнігу яго выбраных твораў увайшлі эсэ «Загадка Багдановіча» і апавяданні «Смаленне вепрука», «Сена на асфальце», «Свет Іванавіч, былы донжуан».




**Бядуля Змітрок. Салавей. Сярэбраная табакерка. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 400 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Выдатны беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля стаў адным з дзеячоў нацыянальнага Адраджэння. Ён меў схільнасць да імпрэсіяністычнага бачання быцця. Часам у ягоных творах праглядаюцца містыка і праявы сусветнае тугі. За савецкім часам Бядуля напісаў гістарычную аповесць-казку «Салавей», у якой чытаецца прыхаванае непрыманне таталітарнага рэжыму. Літаратурная казка «Сярэбраная табакерка» – адзін з першых беларускіх твораў у жанры фэнтэзі.




**Геніюш Ларыса. Споведзь. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 400 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Успаміны выдатнай паэткі Ларысы Геніюш займаюць у беларускай літаратуры выключнае месца. У іх – споведзь душы перад Богам, сучаснікамі і нашчадкамі, слова пра час і пра сябе, пра блізкіх людзей, сяброў і ворагаў. У іх – самаадданае служэнне Беларусі паэтычным словам, дзеяннем, непахіснасцю грамадзянскай пазіцыі і блуканні па ўсіх пакутах сталінскай імперыі – праз засценкі, этапы, перасылкі, лагеры смерці на далёкай Поўначы. Перад чытачом праходзіць безліч аблічча́ў: бацькоў і мужа, сялянак з Панямоння, пачынальнікаў беларускага Адраджэння ў пражскай эміграцыі, людзей розных сацыяльных пластоў і нацыянальнасцей, патрыётаў і здраднікаў, гестапаўцаў і лагерных надзорцаў, герояў, што паміралі з несмяротным купалаўскім «Жыве Беларусь!». Суровай меркай цаніла Ларыса Геніюш падзеі і людзей – найперш сваіх суайчыннікаў. Але на гэта яна мела поўнае права...




**Гардзіенка Алег. Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне – дзейнасць – заняпад (1943–1995). Прадм. В. Кіпеля, Я. Запрудніка. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 480 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 29).**

Кніга «Беларуская Цэнтральная рада (БЦР): стварэнне – дзейнасць – заняпад (1943–1995)» (29-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») распавядае пра нацыянальны рух падчас нямецкай акупацыі і спробу стварэння ўраду са згоды немцаў. У кнізе апісваюцца ўмовы запачаткавання БЦР, надаецца ўвага арганізацыйным і побытавым пытанням. Таксама аўтар даследуе перыяд эвакуацыі з Беларусі, аднаўленне працы Рады ў паваеннай Нямеччыне, а затым і ва ўмовах эміграцыі ў іншыя краіны, найперш у ЗША. Публікуюцца асноўныя дакументы, хроніка галоўных падзеяў, біяграфічныя звесткі.




**Авілін Цімафей. Паміж небам і зямлёй: этнаастраномія. – Мінск: Тэхналогія, 2015. – 287 с.: іл.**

Мы ведаем старажытныя міфы і легенды розных народаў пра зоркі. А ці былі ў беларусаў свае легенды пра нябёсных жыхароў? Як чалавек традыцыйнай культуры ўспрымаў неба і аб'екты на ім? На гэтыя ды іншыя пытанні чытач знойдзе адказы ў прапанаванай кнізе. Тут разглядаюцца народныя ўяўленні, звязаныя з зоркамі, сузор'ямі, метэорамі і Месяцам. Крыніцамі матэрыялу паслужылі экспедыцыйныя запісы аўтара і іншых даследнікаў, творы беларускага фальклору, а таксама «кніжная» народная астраномія з старажытнай усходнеславянскай літаратуры.

Гэта першая спроба абагульнення беларускага матэрыялу з этнаастраноміі, астраніміі і ўвогуле традыцыйных ведаў, датычных нябесных целаў.

Адрасуецца фалькларыстам, этнолагам, этналінгвістам і шырокаму колу чытачоў, якія цікавяцца традыцыйнай духоўнай культурай.




**Лёсік Язэп. Літва-Беларусь: гістарычныя выведы. Прадм. Зьмітра Санько; паслясл. Алеся Жлуткі. – Мінск: Тэхналогія, 2016. – 35 с.**

Увазе чытачоў прапануецца напісаная ў 1921 г. праца вядомага беларускага навукоўца Язэпа Лёсіка, прысвечаная гісторыі этноніма літва і пытанню этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. Пасляслоўе змяшчае крытычны агляд розных версіяў – ад сярэднявечных да сучасных, што спрабуюць развязаць гэтую загадку. У дадатку – артыкул Я. Люціча-Воўка 1949 г., які наўпрост датычыць тэмы Лёсікавай працы.

**Голубеў В. Ф., Кітурка І. Ф. Гісторыя Беларусі ад пачатку XIX ст. да 1945 г. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2015. – 254 с. [іл.].**




У навукова-папулярным зборніку выкладзены асноўныя моманты палітычнай, сацыяльна-эканамічнай і культурнай гісторыі Беларусі ад уключэння беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі да заканчэння Вялікай Айчыннай вайны і падпісання Беларуссю ў якасці дзяржавы-заснавальніцы Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Даецца храналогія падзеяў, раскрываюцца асноўныя тэрміны і паняцці, прыводзіцца літаратура па разгляданых праблемах.

Матэрыяламі зборніка могуць карыстацца школьнікі, студэнты, выкладчыкі, краязнаўцы – усе, хто цікавіцца гісторыяй сваёй краіны.




**Юрша Василий. Ошмянский край: Том 1. Шляхетские роды на Ошмянщине. – Минск: Змицер Колас, 2015. – 418 с., ил.**

Упершыню аўтарам зроблена спроба сістэматызаваць разрозненыя звесткі пра шляхецкія (баярскія) роды ВКЛ, што валодалі землямі на тэрыторыях Ашмяншчыны да 1566 г. (маецца на ўвазе тэрыторыя, пазней аб'яднаная ў Ашмянскі павет), Ашмянскага павета ў 1566–1795 гг., пра нашчадкаў шляхецкіх родаў (як зацверджаных у расійскім дваранстве, так і пераведзеных у статус аднадворцаў) якія валодалі землямі і што пражывалі на тэрыторыі Ашмянскага павета ў 1795–1920 гг., а таксама пра прадстаўнікоў расійскіх дваранскіх родаў, якія з'явіліся ў Ашмянскім павеце пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Асновай для напісання кнігі сталі старадаўнія акты ашмянскіх гродскага, земскага і іншых судовых установаў, перапісы Войскаў ВКЛ 1528, 1565, 1567, 1698 гг., спісы землеўладальнікаў 1677, 1717 гг., рэестры падымнага 1690, 1735, 1775 гг., Рэвізскія казкі Ашмянскага павета, метрычныя запісы касцёлаў ашмянскага дэканата, інвентары маёнткаў, вывадныя справы, працы вядомых польскіх даследчыкаў генеалогіі, польска-расійскія і беларускія гербоўнікі, а таксама шматлікія іншыя крыніцы.




**Хаданёнак В.М. Сацыяльна-эканамічнае становішча насельніцтва неакупіраванай тэрыторыі Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны (кастрычнік 1915 – кастрычнік 1917 гг.): манаграфія. – Віцебск: УА «ВДТУ», 2015. – 161 с.**

Манаграфія прысвечана сацыяльна-эканамічнаму становішчу насельніцтва Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны. На падставе шырокага кола архіўных крыніцаў разглядаецца прамысловасць, сельская гаспадарка на не акупаванай немцамі тэрыторыі. Аналізуюцца змены ў стаўленні насельніцтва беларускіх земляў да вайны. Раскрываюцца пытанні мабілізацыі, выкарыстання мясцовых жыхароў на абарончых працах, арганізацыі медыцынскай дапамогі. Даследуюцца праблемы функцыянавання чыгункі і паштова-тэлеграфных аддзяленняў у ваенны час. Для гісторыкаў, краязнаўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй нашай Бацькаўшчыны.




**Гваздзёў Сяргей. Міхаіл Сеўрук: Мастак з Божай міласці. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал, – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Міхаіл Сеўрук (1905–1979) – беларускі мастак, майстар жывапісу і графікі. У сваіх шматлікіх палотнах, малюнках, гравюрах ён стварыў цудоўныя мастацкія вобразы традыцыйнай Беларусі – сялянска-земляробчай і сакральнай, а таксама шмат партрэтаў жыхароў Вільні і Нясвіжа.




**Тарас Анатоль. Францішак Аляхновіч: Выдатны беларускі драматург і пісьменнік. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Францішак Аляхновіч (1883–1944) – таленавіты беларускі драматург, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, а таксама паэт, празаік, публіцыст. Ён аўтар 20 п'есаў, шматлікіх артыкулаў, вершаў, апавяданняў. Але больш за ўсё яго імя праслáвіла кніга «У кіпцюрах ГПУ», дзе ён распавёў пра сем гадоў зняволення ў савецкім канцлагеры.




**Белинский Владимир. Страна Моксель. Как Московия появилась и «собирала земли» (2-е изд., с изм.). – Рига: ИБИК, 2015. – 288 с.: ил.**

У кнізе выкладзена гісторыя Маскоўскай дзяржавы за 320 гадоў: з моманту яго з'яўлення (1277 г.) і да канца кіравання цара Фёдара Іванавіча (1598 г.). Аўтар разглядзеў пытанні паходжання вялікарускага этнаса, узнікнення Масквы і Маскоўскага княства, станаўлення дынастыі вялікіх князёў Масковіі, яе ўзаемаадносінаў з Залатой Ардой, Крымскім і Казанскім ханствамі. Пры гэтым ён, па-першае, паказаў, што бесперапынная агрэсія супраць усіх сваіх суседзяў складала сутнасць палітыкі маскоўска-расійскай дзяржавы ва ўсе перыяды яе існавання і, па-другое, падверг аргументаванай крытыцы гістарычныя міфы, папулярныя ў сучаснай Расіі.




**Дубоніс Артурас. Лейці вялікага князя літоўскага: з гісторыі ранніх дзяржаўных структур літоўскага грамадства. Пераклад з літоўскай мовы Рамана Урбановіча. – Смаленск: Інбелкульт, 2015. – 146 с.**

Гэтая кніга – даследаванне нараджэння, развіцця і заняпаду ў Вялікім Княстве Літоўскім службовага саслоўя лейцяў. Лейці служылі ў якасці памежнай варты, абараняліі замкі, прадстаўлялі велікакняскую ўладу на ўскраінах і ўтаймоўвалі незадаволеных ёй; пазней яны даглядалі коней гаспадара і суправаджалі яго ў падарожжах. Праз звыклую сучаснаму чытачу структуру палітычных і эканамічных адносінаў, на якіх грунтавалася Вялікае Княства Літоўскае, у кнізе праступае структура асабістых сувязяў паміж яго людзьмі, ад гаспадара да служылага лейця.




**Вілейскі павет. Гісторыка-краязнаўчы гадавік. – Вып. 2. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2015. – 321 с.: іл.**

«Вілейскі павет» – гісторыка-краязнаўчы гадавік, які знаёміць з гісторыяй пэўнага краю – Вілейшчыны. Гэта мясціны, якія гістарычна ўваходзілі ў больш вялікі і старажытны рэгіён – Віленшчыну. Пра людзей і падзеі на гэтых тэрыторыях і расказваюць аўтары гадавіка.




**Ціла Антанас. Скарб Вялікага Княства Літоўскага падчас Дваццацігадовай вайны (1648–1667 гг.). Пераклад з літоўскай мовы Алеся Мікуса. – Смаленск: Інбелкульт, 2015. – 384 с.**

У гэтай працы аўтар імкнецца паказаць рэальнае функцыянаванне скарбу Вялікага Княства Літоўскага падчас вядзення гэтай дзяржавай ваенных дзеянняў у 1648–1667 гг.: фармаванне бюджэту, яго асаблівасці, тыпы падаткаў, паступленні сродкаў, іх штогадовую дынаміку і суадносіны з сапраўднымі патрэбамі, удзел палітычнага грамадства і ўсіх жыхароў краіны ў вырашэнні задачаў па ахове і абароне дзяржавы, а асабліва па вызваленні краіны ад непрыяцеля. Шмат увагі прысвячаецца рашэнням павятовых соймікаў ВКЛ па падатках, добраахвотнай падтрымцы скарбу з боку паветаў, а таксама пастановам Гарадзенскай канвакацыі, дзейнасці прадстаўнікоў ВКЛ на соймах пры падрыхтоўцы канстытуцый ВКЛ, асабліва на сесіях, якія адбываліся ў Літве, іх сувязі са зборам сродкаў у скарб і фармаваннем дзяржаўнага бюджэту.




**Уладыслаў Завальнюк. Эдвард Вайніловіч. Яго ўспаміны, дакументы, сувязь з сучаснасцю. – Мінск: Рымска-Каталіцкая парафія Святога Сымона і Святой Алены, 2014. – 102 с.**

У кнізе сабраны матэрыялы, прысвечаныя жыццю і дзейнасці Эдварда Вайніловіча, яго ўспаміны і ўспаміны яго сяброў, дакументы па перазахаванні праху і пачатку беатыфікацыйнага працэсу Э. Вайніловіча.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89
А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by

# Слэм у Дзень Святога Валянціна

**Амаль апоўначы, у апошні дзень Міжнароднага паэтычнага фестывалю «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова былі названыя пераможцы ўжо традыцыйнага для фэсту паэтычнага слэму.**

Сёлета публіку і журы не ўразілі ні тэатральнасць, ні гумар выступоўцаў-слэмераў. Толькі хардкор, толькі паэзія і толькі сур'ёзны змест. Магчыма, справа ў тым, што ў склад журы, якое па правілах слэму выбіраецца з публікі, усё ж трапілі прафесіяналы галіны.

Як і летась, сёлета слэм праходзіў у камандна-індывідуальным фармаце. Тры зборныя – Беларусі, Свету і паэтычнага батла «Рухавік» па чарзе прадстаўлялі сваіх гульцоў на сцэне. Кожны з іх, змагаючыся за сябе, працаваў і на агульны камандны лік. Адметна, што сёлета журы і мадэратары строга сачылі за часам. Вялікі секундамер на маніторы, паўзмрок каля сцэны…

У зборную каманду Беларусі ўвайшлі: беларускамоўная іспанка Анхела Эспіноса, Андрэй Адамовіч, Ганна Комар, пераможца леташняга слэму Георгій Барташ, Уладзімір Глазаў, Наста Кудасава.

Зборную Свету прадстаўлялі: Дайва Чапаўскайтэ (Літва) у тандэме з перакладчыкам Андрэем Хадановічам, Алена Сцепаненка, Люба Якімчук, Ала Мікалаенка (Украіна), Сяргей Прылуцкі (Беларусь-Украіна), Сяргей Бірукоў (Германія – Расія).

Ганаровы «чаравічак» леташняга слэму Георгій Барташ гэтым разам распавёў гісторыю пра тое, як у яго двары здымалі кіно, а Уладзімір Глазаў проста ўварваўся ў свядомасць публікі сваім каронным «свет звужаецца». Сяргей Бірукоў са зборнай Свету сваімі «Вершамі для тых, хто пазяхае» правёў своеасаблівую фізкульт-размінку для мышцаў твару, а кароткія і лаканічныя вершыкі Алеся Сьнега адразу ж запаміналіся. Паэтка з Украіны Люба Якімчук прапанавала публіцы верш пра фальшывых сяброў перакладчыка, а яе калега па камандзе Алена Сцепаненка не пабаялася прачытаць твор, напісаны акурат у дзень слэму. Наста Кудасава зачаравала сваёй неверагодна шчырай і жаноцкай паэзіяй.

Так, па выніках першага тура ў камандным заліку перамагла зборная Свету, а ў фінале апынуліся чатыры паэты: Наста Кудасава, Дайва Чапаўскайтэ ў пары з перакладчыкам Андрэем Хадановічам, Сяргей Прылуцкі і Алена Сцепаненка з Украіны.



Алена СЦЕПАНЕНКА.

Ганаровае чацвёртае месца занялі прадстаўнікі каманды «Рухавіка» Алесь Сьнег, Аліса Мініна, Рыгор Шабека. Трэцяе месца падзялілі Наста Кудасава і Сяргей Прылуцкі, на другім месцы – Дайва Чапаўскайтэ з Літвы. І вельмі прыемна, што рэванш за мінулагодні слэм сёлета ўзяла Алена Сцепаненка (летась яна саступіла ў фінале Георгію Барташу) і перамагла. У якасці прыза ад Саюза беларускіх пісьменнікаў Алена атрымала букрыдар.

**Тэкст і фота – Арына Радзівончык, для lit-bel.org**

■ АЎТОГРАФ

# «Літаратуразнаўства на сёння – самая інертная гуманітарная галіна»

*(Пачатак на стар. 1)*

**– Вы аўтар грунтоўнага даследавання паэтыкі Алеся Разанава («Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй»). Творчасць якіх беларускіх літаратараў, на Вашую думку, засталася па-за ўвагай даследчыкаў і вартая літаратуразнаўчых працаў?**

– Тут прасцей сказаць, творчасць якіх аўтараў не засталася па-за ўвагай грунтоўных даследаванняў. Уражанне, што літаратуразнаўства на сёння – самая інертная гуманітарная галіна. Калі я паступаў у аспірантуру Інстытута літаратуры, марылася, што патраплю ў прастору, якая паспрые майму паглыбленню ў нейкія таямніцы літаратурнага працэсу, зменіць мысленне, пашырыць тэзаўрус і г.д., і да т.п. Не скажу, што гэтага не адбылося. Прынамсі, з супервайзерам мне фантастычна пашэнціла. Міхась Аляксандравіч Тычына – не толькі глыбокі навуковец, фактычна прадаўжальнік школы тэарэтычнага літаратуразнаўства, але й выдатны педагог, які не перапісвае за цябе працу ці, іншая скрайнасць, не зводзіць усё да фармалёвых заўваг (бо як даводзілася чуць не раз, кандыдацкая – праверка ці ўмее чалавек афармляць навуковы тэкст), а скіроўвае працу ў патрэбнае рэчышча… Але што да астатняга, дык якраз на маіх вачах адбылося злучэнне інстытутаў мовы і літаратуры. Ну, а пасля ліквідацыі Інстытута мовы і літаратуры дзеля «зліцця» з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклору пра беларускае літаратуразнаўства, на жаль, можна забыцца.

**– На імпрэзах Вы спяваеце пад гітару свае пераклады з Барыса Грэбеншчыкова, Віктара Цоя і Аляксандра Башлачова, створаныя для «Анталогіі перакладаў расійскай рок-паэзіі». Гэта толькі творчы эксперымент, хобі, альбо Вы сур'ёзна вырашылі заняцца музыкай і будуць новыя песні?**

– Гэта, вядома ж, творчы эксперымент. Рэч у тым, што заўсёды хацелася праспяваць на нашай мове песні, любімыя з часоў туманнага юнацтва. А тут выдарылася магчымасць, з бласлаўлення галоўнага рэдактара «Дзеяслова» спадара Барыса Пятровіча, уцялесніць гэтую мару ў выглядзе рок-анталогіі, што выйшла ў 69-м нумары часопіса.

Рускі рок – як сістэма апазнавання свой-чужы. Шмат для каго ён быў першай прыступкай на ўваходзе і ў музыку, і ў паэзію. Шмат хто яе, дарэчы, так і не пераадолеў. Той жа ленінградскі рок 1980-х, які да майго пакалення перайшоў па інерцыі ад старэйшых братоў і сёстраў, перадусім, пардон за пафас, – прышчэпка свабодалюбства. Атмасфера татальнае несвабоды, у якой ствараліся найлепшыя рэчы, падаецца, і стымулявала да творчасці, да пошуку гэтай самай свабоды ўнутры сябе, як спявала Умка. Падаецца, з цягам часу шмат якія тэксты, што ствараліся тады, толькі набываюць большую глыбіню і рэльефнасць. Відаць, так і не прычакалі мы таго часу, калі, як спяваў Башлачоў, «гэтыя песні стануць не патрэбныя».

Дарэчы, у «Анаталогіі» ёсць нямала адсылак і да тэкстаў г.зв. рускага року. Ну і, відаць, не выпадкова ж кніга пачынаецца з цытаты песні групы «Кіно».

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Леанід Галубовіч. Поўня. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 17). – 144 с.**

Зборнік выбраных твораў паэта, рэдактара і крытыка Леаніда Галубовіча, куды ўвайшлі вершы і мініяцюры, пабачыў свет у Бібліятэчцы «Дзеяслова». Кніга змяшчае найлепшыя вершы, напісаныя за трыццаць пяць гадоў, што ўваходзілі ў шэсць папярэдніх зборнікаў, а таксама «зацемкі з левай кішэні» з аднайменнага выдання, прысвечаныя літаратурнай дзейнасці. «Зямная філасофія жыцця, зрытмізаваная сэрцам і зарыфмаваная душой» – так лаканічна, але глыбока пазначаецца ў анатацыі да новага зборніка, прымеркаванага да 65-гадовага юбілею аўтара.




**Юры Несцярэнка. Звычайны шоу-бізнес. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 64). – 156 с.**

Калі прафесійны музыка бярэцца за прозу, тое крыху насцярожвае, ці не пераўтворыцца нарацыя ў расповед баек-паказак ды каля-шоу-бізавых фрашак. На шчасце, літаратурная творчасць Юрася Несцярэнкі не ўпісваецца ў акрэсленую схему. Першая празаічная кніга спадара Юрася змяшчае як аўтабіяграфічныя, так і па-мастацку змадэляваныя сюжэты. Практычна ўсе творы закранаюць музычную тэматыку, у іх гучаць рок, джаз, блюз ды іншыя альтэрнатыўныя жанры. Назва зборніка мае глыбока іранічны кантэкст, абумоўлены як асабістым досведам аўтара, так і агульнакультурнай сітуацыяй у Беларусі. Што да ідэйнага боку, то, перафразуючы класіка, герой твораў Юрася Несцярэнкі працуе над тым, каб па кроплі выціскаць з сябе «саўка». Працуе паспяхова.




**Стася Наркевіч. Як Васілёк выратаваў каралеўства: казка-размалёўка. Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 9). – 24 с.**

Дзявятым выпускам серыі «Каляровы ровар» стала кніжка-размалёўка Стасі Наркевіч «Як Васілёк выратаваў каралеўства». Юнака Васіля ногі самі нясуць у пракаветны лес, аднак зайсці туды не атрымліваецца. Птушкі паведамляюць Васілю, што лес атачаны равамі, пасткамі і закляццямі: тут знаходзіцца замак, дзе чарадзеі сцерагуць прынцэсу Дабралетку. Юнак вырашае вызваліць прынцэсу...

Што адбылося далей, вы даведаецеся, калі прыдбаеце сабе новую кніжку Стасі Наркевіч (Анастасіі Лазебнай), якая ўзначальвае Віцебскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. А каб чытаць яе было яшчэ цікавей, ледзь не на кожным развароце кніжкі можна размаляваць графічныя работы мастачкі Алены Сянько.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Наша
№ 36
люты, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 36 26.02.2016.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com